**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня 10 верасьня 1922 г. № 2.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 30 марак. Газэтка каштуе з паштовую перасылкаю, ў месяц 150 марак. Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Маетовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618. Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г. | **Абвесткі:** Цэлая старонка . . . . 10.000 мк. ½ старонкі . . . . . . 5.000 „ ¼ „ . . . . . . . 3.000 „ Дробныя абвесткі. . . па 100 „ за радок. |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* ЛЮДЗЬВІК ХАМІНСКІ *пасол Сойму. Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Гальвач, С Бальлін, В Шакун, Б. Ігнатовіч, П. Жынь, Я. Драздовіч. М. Дварэцкі, А. Шапель.*

# Вызваленцы

**Лідзкага, Валожынскага, Ашмянскага й Вялейскага паветаў!**

**У нядзелю 24-га верасьня адбудзецца у Лідзе акружны зьезд „Вызваленьня“. Будзем радзіцца, як выйграць выбары і каго выбраць пасламі. На зьезьдзе будзе пасол Рудзінскі.**

**Кожная вёска хай вышле свайго дэлегата.**

**Акружны Выбарны Камітэт**
**П. Н. П. „Вызваленьне“.**

## Благая й добрая паліцыя.

Няраз мы пішам і гаворым аб паліцыі, а часта пішам і гаворым блага.

Чаму гэта так?

Ці паліцыя непатрэбна? Ці гэта кара Божая? Ці гэта бяда для краю?

Не. Ой, не!

Паліцыя патрэбна ў кожным краі і без яе нельга абыйсьціся.

Як у вёсцы так і ў месьце чалавек, каб жыць спакойна, патрабуе парадку,

Калі няма парадку — дык і рэзультату сваe працы ніхто бясьпечна не зьбярэ й не захавае.

Калі будуць бяз кары хадзіць зладзеі, грабежнікі, бандыты, а навет і забойцы — дык якжа-ж можна тады жыць?

Калі земляроб згарэ й пасее, а сусед забярэ яго снапы на полі, альбо збожжа ў сьвірне?

Калі за праданае збожжа, малако, масла, ці карову возьме селянін грошы, а ў лесе адбярэ ў яго бандыт, аграбіць, альбо й заб'е, калі на кірмашы зладзеі забяруць і воз і каня, альбо канакрады схопяць каня на сенажаці, альбо і проста з стайні — дык хто будзе бясьпечным у сваёй працы — хто будзе магчы жыць спакойна і чэсна?

Паліцыя ёсьць дзеля таго, каб пільнавала парадку. Яна ёсьць на тое, каб сачыла зладзеяў, бандытаў і канакрадаў ды не давала ім рабіць зладзейскія штучкі; паліцыя ёсьць на тое, каб быў парадак, а кожны, каб карыстаўся пладом свае працы.

Праз гэта мы не выступаем проці паліцыі, якая спаўняе свае абавязкі.

Праз гэта мы цэнім і шануем чэсных паліцэйскіх так, як кожны чалавек у Францыі, або ў Англіі, значыцца ў вольных дзяржавах на сьвеце шануе й цэніць сваіх чэсных паліцэйскіх, якія там стаяць высока.

Але-ж калі благі паліцэйскі замест таго, каб бараніць людзей ад крыўды, сам гэтую крыўду робіць; калі замест таго, каб лавіць зладзеяў, бярэ ад іх хабары, калі замест пільнаваньня парадку сам за хабор багатшага звольніць ад стойкі, а беднага, й без таго пакрыўджанага, штотыдня на стойкі пажане; калі пры

арышце дзеля дапросу б'е й лупіць людзей, а навет пап'яраму й страляе, як гэта было ўжо раз у Жалудку і Васілішках. Калі замест абароны ад панскае фантазіі няпраўна змушае сілаю служыць пану, альбо бяз права арэндатара выкідае — тады гэткі паліцэйскі нявaрт насіць свой мундзер, які павінен, як жаўнер, цаніць, тады павінен быць ухілены й пакараны, як звычайны праступнік, тады мусіць адпакутаваць за свае благія дзеі.

А таму што, нажаль, шмат яшчэ ў нас ёсьць гэткіх благіх паліцэйскіх, дык людзі часьцей запамінаюць аб чэсных, а гавораць аб благіх паліцэйскіх. Праз гэта так часта чутно аб благой паліцыі.

Калі паліцэйскі спакойна прыйдзе на мітынг паслухаць аб чым народ гаворыць і будзе пільнаваць парадку, каб не перашкаджалі аратарам, як гэта было 11 чэрвеня ў Глыбокім на мітынгу нашага пасла Рудзінскага, дзе паліцэйскі вывяў „радзюка" Ражноўскага, які перашкаджаў, альбо захоўваўся няпрыстойна; альбо, як было ў Дунілавічах, ці Сьвіры, дзе на мітынгу паліцыя толькі пільнавала парадку—дык мы яе хвалім і кажам, што робіць добра.

Бо спаўняе свой абавязак. Таксама, як і тады, калі нішчыць зладзеяў, бандытаў і канакрадаў.

Але калі паліцыя перашкаджае народу развважаць, як 6 жніўня ў Павятовай Вялейцы, альбо 18 чэрвеня ў Ашмяне, дзе сабраны народ прыкладамі бяспраўна разганяла — альбо, як у шмат якіх іншых мясцох—дык тады мусім аб гэтым пісаць, мусім скардзіцца і старацца, каб гэткіх благіх паліцэйскіх, хабарнікаў з паліцыі павыкідаць вон —альбо і пад суд аддаць за парушэньне службовага абавязку.

У інтарэсе насяленьня, а таксама й самое паліцыі, каб была добраю і чэснаю, тады замест скаргаў ды маракаваньня, яе будуць шанаваць і любіць, бо ў добрай паліцыі кожны для сябе і для свае маемасьці знайдзе абарону й рахунак.

Дык імкнуцца трэба да добрай паліцыі. А благую й нячэсную старацца зьмяніць. Як цяпер выйграем на выбарах, як будзем мець большасьць у Сойме, дык новы наш урад будзе пільна глядзець, каб паліцыя была чэснаю.

Тады не адзін благі сягоняшні паліцэйскі прыдзе прасіць ласкі ў тых, каго сягоньня абдзірае.

Дык — пільнуйцеся, благія паліцэйскія! Ідзеце за прыкладам добрых.

Нядоўгае ўжо ваша панаваньне. Слухайце народнага голасу, не перашкаджайце народу арганізоўвацца да перамогі. Бо йначай блага будзе вам.

А тымчасам, чытачы нашай газэткі й сябры „Вызваленьня", памятайце добра, як каторы паліцэйскі папраўляецца й пішэце аб гэтым да нас; памятайце, каб суд аб паліцэйскіх быў справядлівым. Добрых пакінем на службе, а благіх звольнім.

Аб фактах зьдзеку, біцьця, абдзіраньня людзей, аб хабарох пішэце ўжо цяпер да нас, каб быў матар'ял на парадачнае збудаваньне адносін, калі выйграем выбары. Памятайце, што ад вашага голасу на выбарах і паліцэйскі ваш залежыць.

*Л. Х.*

---

## Дзякуем Вам.

Ад часу, як нам сконфіскавалі 19 нумар „Wyzwolenia-Odrodzenia", забаранілі выдаваць газэтку пад гэтай назваю і аддалі пад суд рэдакцыю, мы адтрымалі ўжо больш, як 100 пісьмаў ад нашых чытачоў. У гэтых пісьмах пытаецеся, Каханыя Браточкі, ці не зрабілася з намі чаго-нібудзь благога, ці здаровы жывем, падтрымліваеце наш дух і просіце, каб далей адважна бараніць бедных і пакрыўджаных.

Браточкі — дзякуем Вам за памяць, за клопат і словы пацехі. Нашае сэрца цешыцца, што мы не адны, што ўжо ёсьць вялікая народная дружына, якая ўзаемна аб сабе дбае. Ужо цяпер верым, што не на дарма мы працавалі, верым, што хоць не аднаму ня хопіць сілы, што хоць не адзін будзе ахвяраю, але ў канцы пераможам!

Адказваем усім на вашае пытаньне: суду яшчэ ня было, яшчэ йдзе сьледзтва. Бо ўлады-ж ведаюць што праўдзівы Вызваленец суду не баіцца, верачы, што суд рассудзіць справядліва, дык узялі толькі грашавы залог, каб, напрыклад, абвінавачаны ня ўцёк перад судом.

А мы суду чакаем спакойна. Але паном ня церпіцца. Хочуць яны, каб якнайбольш Вызваленцаў сядзела ў вастрозе, асабліва цяпер перад выбарамі.

Дык на сваю руку падаюць нас у суд. Гэтак, напрыклад, пан банкір і эндэк Гагэмаер з Ліды падаў нас у суд за корэспондэнцыю з Ліды, ў якой мы напісалі праўду аб гэтым пане, а яму гэта вельмі не падабаецца. І гэтага суду чакаем спакойна, бо на ўсё маем довады, бо ня кідаем нашых словаў на вецер.

Заўсёды нас страшаць, што будзем пасажаны за вастрожныя краты, заўсёды чагось чапляюцца.

Даносы йдуць за даносамі.

А мы адказваем: праўду гаварыць і пісаць будзем, ці гэта каму падабаецца, ці не.

Не застрашыце!

---

## Жыцьцё ці няволя.

Праз два месяцы будуць выбары. Польскі, беларускі і украінскі народ мусіць злучыці свае сілы, каб выйграць сваю долю.

Паны ня сьпяць. Яны зрабілі хаўрус з фабрыкантамі ды капіталістымі. Зьбіраюць грошы. Вельмі вялікія грошы. Наймаюць людзей, хочуць падкупіць войтаў і солтысаў, каб абараніць панскі кішэнь. Маюць у руках газэты, друкарні, наймаюць тысячы агітатараў, сотні пісакаў, якія будуць пісаць і друкаваць, што толькі падабаецца панскай фантазіі.

Каб гэта кожны чалавек, мужчына, ці кабета ведаў, што пагражае яму, калі прайграе выбары, дык і сьледу не засталося-б ад панскага панаваньня.

І на гэта ніякае рэвалюцыі, агню, крыві й голаду ня трэба. Даволі таго, каб людзі мелі ў галаве розум.

Калі народ выбера сваіх праўдзівых сялянскіх і рабочых пасłоў у Сойм, дык можа без рэвалюцыі зьмяніць у Польшчы ўладу.

Паслоў мае быць у Сойме 444. Калі народ выбера 250 сваіх паслоў, дык будзе мець у Сойме большасьць і назначыць левы

ўрад, які кіраваціме чэсна і справядліва.

А ці-ж гэта лёгка? Навет вельмі лёгка. У Польшчы на кожныя 100 чалавек ёсьць 75 сялян, 15 работнікаў і толькі 10 іншых, г. знач. капіталістых, абшарнікаў, гандляроў і людзей іншых профэсіяў.

Значыцца, каб увесь народ галасаваў за сваіх, дык у Сойме было-б 333 сялянскіх паслы, 67 работніцкіх і толькі 44 правых паслы.

Але-ж ведаем, што гэтак добра ня будзе.

Чаму?

А таму, што паны ўмеюць чорнае выдаваць за белае. Ужываюць грошы, уплывы, капіталы, утрымоўваюць і падкупляюць людзей на тое, каб ачмуціць народ.

Калі-б кожны мужчына й кабета, якія пададуць свае галасы пры выбарах, ведалі нашто падаюць, дык не далі б сябе ашукаць.

Але панскія служкі ня сьпяць. І вось будуць зводзіць, удаваць панскага ваўка за бедную авечку, якая толькі просіць літасьці. Ужо цяпер эндэкі злучыліся з партыяю гэтак званае „Хрысьціянскае дэмократыі“, дзе чмуцяць работнікаў нібыто лёзунгамі хрысьціянства й духоўнаю вопраткаю ксяндзоў, якія там ёсьць, а сапраўды схіляюць работнікаў да таннае працы на карысьць капіталістых.

Вось-жа з гэтым ашуканствам аб'ядналася эндэцыя, абшарнікі пасыпалі ім мільёны, фабрыканты й банкіры дадалі яшчэ столькі — і сфабрыкавалі яны ўсе разам, якія хочуць ашукаць вясковы народ і работнікаў — новую назву, яшчэ фальшывейшую, як ранейшыя, а ўласна гэтак званы *„Хрысьціянскі Саюз Нацыянальнай Еднасьці“*.

Што ні слова, дык мана.

Бо Хрыстос вучыў пакорнасьці, міласэрдзю й любасьці да бліжняга свайго. А яны поўны хванабэрыі, ашуканства й нянавісьці да сялян і работнікаў, якіх разам называюць *хамамі*.

Не *нацыянальны* гэта саюз, бо злучаюцца там усе, хто выступае проці народу. Ня *еднасьць* народу маюць на думцы, толькі разьбіцьце нацыянальнай еднасьці народу і работнікаў праз ашуканства і прынуку служыць панскаму кішаню.

Бо Сойм пастанаўляе аб праве, назначае ўрад, кантралюе вураднікаў. І выбраны цяпер Сойм будзе ўрадаваць 5 гадоў.

Значыцца, калі-б паном удалося ўкруціць большасьць сваіх паслоў, дык што-ж акажацца?

Акажацца, што яны возьмуць у рукі уладу, Пілсудскага скінуць, будуць выкручвацца ад падаткаў, зямельную рэформу будуць затрымоўваць, альбо проста зробяць немагчымаю, пачнуць вайну дзеля сваіх зыскаў, назначаць свой урад, а ведама, што „свой да свайго“, значыцца іх штучкі павялічацца, а народ будзе толькі стагнаць ды чакаць ад Бога літасьці, але пакуль гэтыя пяць гадоў прайдуць, а вураднікі й паліцыя будуць сабе свабодна гуляць, згінаючы мужыцкія каркі пад яснавяльможныя панскія ногі.

А можна ад гэтага зла ўхіліцца.

Польшча — гэта ня царская Расея. Польшча збудована так, што можа быць сапраўды вольнаю і дэмократычнаю дзяржаваю. Пры выбарах у Польшчы голас кожнага чалавека, кожнага жабрака навет, гэтулькі варт, колькі голас найбагацейшага пана, ці банкіра.

Значыцца, калі народ ня дасьць ашукаць сябе, дык скіне свае ярмо, як лісток, тады і справядлівыя правы й зямельную рэморму і зямлю дасьць селяніну, а работніку ды інтэлігэнту бяз уласнасьці — абарону працы, тады і ўрад свой назначыць і скантралюе вураднікаў, благіх выкіне, а добрым дасьць людзкае жыцьцё.

Тады пачнецца добрае жыцьцё... Але на гэта трэба мець большасьць паслоў у Сойме. У пачатку мы даказалі, што гэта лёгка зрабіць. Значыцца, рабіці трэба.

Хай кожны аб гэтым падумае і выбера сабе — далейшую няволю на 5 гадоў, ці вольнае жыцьцё! Хай кожны сам галасуе за сваіх сялянскіх паслоў „Вызваленьня“, а іншых намаўляе й вучыць, каб ад кожнай агітацыі бараніліся, каб не давалі веры шэптам чарта ў авечай скуры.

Трэба памятаць, што тут рэч ідзе аб лёсе цэлага народу, аб жыцьці, аб Польшчы.

Хай ніводзін сялянскі голас не прападзе і наша народная справа пераможа.

**Людзьвік Хамінскі**
пасол Сойму.

---

## Пястоўцы - Вітосоўцы гандлююць мандатамі у Сойм і Сэнат.

Варшаўскія газэты пішуць, што ў Кракаве пястоўцы (P. S. L.) за 100 мільёнаў пастанавілі правесьці ў Сойм і Сэнат некалькі графоў-абшарнікаў. На выбарчым сьпіску вітосоўцаў маюць быць граф Бадэні і граф Незабітоўскі.

Мала ім мусі грошай з лясных ды парцэляцыйных таварыстваў, мала ім гандлю Дайлідамі Баянца, што бяз грошай праграюць, дык ізноў паном запрадаюцца.

А тут у нас, у Віленшчыне і ў Навагрудзкім ваяводзтве яны пекна гутараць і шмат абяцаюць.

Сорам!

---

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Шаноўны Грамадзяніне Рэдактару!

Год назад, калі снадзяваліся мы выбараў ў Варшаўскі Сойм, пачалі ў нас надта агітаваць Рады Людовыя, або Стража Крэсовая. Вельмі сябе хвалілі абяцалі людзям усё, дарма засыпалі сваімі газэткамі ды брашуркамі. Шмат людзей паверыла ім і запісалася ў „радзюкі“. Аж пасьля раптам перасталі езьдзіць, намаўляць ды агітаваць, толькі

# НА СХОД!

Ідзі на сход, слабы і дужы,
Ды не лянуйся пасьпяшы,
Ваюй за права сваё, дружа,
Сабраўшы крыўды ўсей душы.

Устань і ты дзядулька з печы:—
Мазольных рук стары ўладар,
Ідзі, паслухай роднай рэчы,
Якую кажа гаспадар.

Ен кажаць там на роднай мове,
Якой гукаў яшчэ твой дзед,
А тых чужых і модных словаў
Даўно прастыў ужо і сьлед!

Ня верыць дзед: „Не, кажа, — годзі,
Каб памужыцкаму гукаў,
На большым сходзе, пры народзе,
За гэта-б ён лазы дастаў“.

Дык ты-ж, дзядулечка, паслухай,
Гэта-ж ня той даўнейшы сход:
Няма даўно тых злосных катаў,
Якім мужык быў не народ!

Цяпер наш брат, мужык-сярмяжнік,
Больш не ламаець свой язык;
Крычыць ён голасна, адважна:
„Гэй падымайся ты, мужык!“

Сьпяшай пад сьцяг наш „*Вызваленьне*“,
Які ратуе ад бяды
І робіць вольным пакаленьне
Сяброў сялянскай грамады!“

**Мікола Дварэцкі**
меншы Базылёў сын.

й далей дарма прысылалі сваю газэтку. Людзі дзівіліся, чаму гэта так хутка перасталі агітаваць радзюкі.

Але аказалася, што ўсе яны выехалі ў Віленшчыну, дзе меліся быць выбары ў Віленскі Сойм. Пэўна й там шмат абяцалі, бо, як мы чыталі ў газэтах, ня мала іх прайшло ў Сойм. І што-ж аказалася? Абяцалі шмат, а нічога не зрабілі! Пайшлі разам з панамі эндэкамі, галасавалі проці зямельнай рэформы. Калі Вызваленцы нейкі проект дзеля абароны народу прапанавалі, дык яны—Рады Людовыя—галасавалі проці. Усе помняць, як іх пасол Нусбаум (жыд) казаў, жто цяпер ня час на гэткія справы, гэта ўсё (зямельную рэформу) рашыць Варшаўскі Сойм. А як гэта мог рашыць Варшаўскі Сойм, калі ў ім сядзела большасьць паноў, фабрыкантаў і вітосоўцаў — аб гэтым радзюкі добра ведалі, дык чаму-ж дурылі народ?

Гэтак і сталася. Да вырашэньня гэтае справы ў Віленскім Сойме Рады Людовыя не дапусьцілі народ.

Вось жа нічога не зьмянілася на лепшае.

Вось чаму працоўны народ у Віленшчыне адвярнуўся ад Радаў Людовых, але ніводзін „радзюк“ ня можа цяпер паказацца на вёсцы ў Віленшчыне. Вясковы народ пазнаў, што „Вызваленьне“ борацца за яго справы, што „Вызваленьне“ як кажа, так і робіць.

Цяпер яны ізноў прыехалі ў наш бок і агітуюць, бо думаюць, што зноў ім удасца правесьці сваіх паслоў ды ўцячы так, як уцяклі з Віленшчыны, дзе ўжо іх пазналі. Адзін раз ашукаць людзей лёгка. Раз ашукалі ў Віленшчыне, цяпер хочуць ашукаць у нас у навагрудзкім вокрузе, а пасьля наедуць яшчэ далей, дзе большая цемната, дзе яшчэ ня знаюць іх харошых словаў ды благіх дзеяў.

Напішэце, Грамадзяніне Рэдактару, аб іх у нашай газэтцы, каб адчыніць людзям вочы! А тым часам надрукуйце для асьцярогі мае словы.

На зьезд з нашае воласьці прыедуць 2 делегаты.

**Б. Чарняускі**

II.

Шаноўная Рэдакцыя!

Будзьце ласкавы зьмясьціць гэтых некалькі словаў, у Вашай паважанай часопісі.

Пытаемся ў Шаноўнага Пана Старасты Валожынскага павету, што сталася з рапартам, пададзеным грамадзянамі вёскі Янковічаў пану Намесьніку Пана Старасты 30-VI. бяг. году аб хаборніцтве нашага войта Налібоцкае воласьці п. Я. Шабуні і куды гэта справа скіравана. Бо ня хочацца верыць, каб староства пакрывала хаборнікаў. **Н. Я.**

## Адказы Рэдакцыі.

Грам. Гінко Пётры,

Пісьмо Вашае мы адтрымалі. Уцешыла яно нас і засмуціла. Відочна, блага ў Вашым краі, бо людзі пазнаюць праўду толькі па тым, ці яе арэштоўваюць і прасьледуюць, ці не.

Нас, мужыкоў, гэтак усе чмуцяць ды ашукваюць, што сапраўды ня ведаем каму верыць.

Вы пішаце, што Ваша вёска толькі цяпер пасьля конфіскацыі нашае газэткі пазнала, што мы ня трымаемся з панамі, а з народам.

Ці Вы, Дарагі Грамадзянін, думаеце, што першы раз Вызваленцам зрабілі крыўду? Ці ня чулі, колькі Вызваленцаў нашыя паслы выцягнулі з лагеру у Стралкове? Ці Вы не заўважылі, як некаторыя вураднікі, панскія паслугачы, прасьледуюць і нашых інструктараў і газэтку, шукаючы яе па вёсках і нішчачы на пошце? Ці ня чулі, як у Ашмяне, Вялейцы, Астрыне, Шчучыне і у шмат іншых мясцох загадвалі паліцэйскім разганяць нашыя мітынгі, альбо пазвалялі гаварыць толькі нашым паслом, якім нічога ня могуць зрабіць?

Ці Вы ня ведаеце колькі нашых найлепшых людзей зьбіта да крыві панскімі баёўкамі і скалечана падчас выбараў у Віленскі Сойм?

Шмат ужо было ахвяраў, будзе яшчэ больш, але ў канцы праўда пераможа, бо пакрысе людзі вучацца пазнаваць сваю арганізацыю, сваю дарогу і сваіх праўдзівых апосталаў.

Грам. Янцы Міхалёнку, вёска Любча Вялейскага павету.

Адказ на Вашае пісьмо пераслалі поштаю. Напішэце, ці адтрымалі.

Грам. Костусю Тракуну

Адтрымалі толькі трэцье Вашае пісьмо — заказное. Два, відочна, згінулі — некаму мусі вельмі былі патрэбны. Аб пабіцьці Вашага суседа абшарнікам напішам.

Рэдактар Выдавец С. Ваяводзкі. Друк. „LUX“ у Вільні.